МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№7 (147)
ліпень 2014

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:



НАВІНЫ

## У БЕЛАРУСАЎ ЗАМЕЖЖА З'ЯВІЎСЯ СВОЙ ЗАКОН

Закон "Аб беларусах замежжа" за нумарам 162-З быў прыняты 16 чэрвеня 2014 года. Шлях да гэтага моманту быў вельмі доўгі.

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" з 2001 года ставіла пытанне аб неабходнасці заканадаўчага рэгулявання стасункаў Рэспублікі Беларусь з беларусамі замежжа. Гэтае пытанне гучала цэнтральнай праблемай на з'ездах беларусаў свету, якія "Бацькаўшчына" склікае шточатыры гады. Дэлегаты выступалі з заклікам да Урада прыняць адпаведны закон, уносіліся канкрэтныя прапановы па яго змесце.



*Галасаванне падчас Пятага з'езду беларусаў свету*

У 2002 годзе юрыдычная камісія Згуртавання "Бацькаўшчына" нават распрацавала праект такога закона. На Чацвёртым і Пятым з'ездах беларусаў свету, якія адбыліся ў 2005-м і 2009-м гадах адпаведна, дэлегаты ўдасканальвалі гэты законапраект. Усе гэтыя прапановы накіроўваліся "Бацькаўшчынай" у адпаведныя дзяржаўныя органы. На жаль, хутка справу зрушыць з мёртвай кропкі не ўдавалася.

Толькі ў 2009 годзе пры Нацыянальным цэнтры заканадаўства і прававых даследаванняў Рэспублікі Беларусь была створана Працоўная група па распрацоўцы законапраекта, у якую было запрошана і кіраўніцтва Згуртавання. "Бацькаўшчына" імкнулася давесці, што Беларусі варта ў распрацоўцы закона абапірацца на досвед унітарных краінаў, якія ўжо маюць такія законы, і зрабіла пераклады такіх законаў шасці краін. Згуртаванне выступала за тое, каб доўгачаканы закон быў наўпроставага дзеяння і адстойвала назву законапраекта – "Аб беларусах замежжа", якая ўрэшце, у выніку доўгіх перамоваў і тлумачэнняў, і замацавалася за ім. І потым некалькі гадоў лёс законапраекта быў невядомы.

Распрацаваны групай законапраект некалькі гадоў праходзіў узгадненні ў розных дзяржаўных інстанцыях, і, адпаведна, мяняў свой змест. Над канчатковым яго варыянтам перад падачай у Палату прадстаўнікоў працавала Міністэрства замежных спраў Беларусі,



# У беларусаў замежжа з’явіўся свой закон

якое і зводзіла ў адзін дакумент прапановы і заўвагі дзяржаўных устаноў, што спрычыніліся да распрацоўкі.

Нарэшце праект Закона паступіў для разгляду ў Палату прадстаўнікоў летась у лістападзе. Згадаем, што яшчэ ў 2002 годзе падобны законапраект пад назвай “Аб суайчынніках, якія пражываюць за мяжой” быў узяты на абмеркаванне ніжняй палатай парламента. Тады з нейкіх прычынаў ён не быў прыняты і на доўгі час выпаў з прыярытэтаў знешняй дзяржаўнай палітыкі.

І вось нарэшце, пасля доўгіх гадоў хаджэння па кабінетах, Закон “Аб беларусах замежжа” прыняты.

Ці прынясе ён палёгку тым беларусам і арганізацыям за мяжой, якія шчыруюць дзеля захавання беларускай прысутнасці ў розных краінах уласнымі высілкамі?

Як адзначалі прадстаўнікі Міністэрства замежных справаў у інтэрв’ю МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”, змешчаным на сайце zbsb.org 18 лістапада 2013 года, Закон “Аб беларусах замежжа” носіць дэкларатыўны характар і не мае сілы прамога дзеяння. Ён вызначае асноўныя прынцыпы, мэты і напрамкі дзяржаўнай палітыкі ў галіне адносінаў з беларусамі замежжа ў мэтах забеспячэння салідарнасці беларусаў ва ўсім свеце, захавання нацыянальна-культурнай ідэнтычнасці беларусаў замежжа і ўмацавання іх сувязяў з Рэспублікай Беларусь, а таксама катэгорыі асобаў, якія адносяцца да беларусаў замежжа, і меры дзяржаўнай падтрымкі, што аказваецца беларусам замежжа ў Рэспубліцы Беларусь і за яе межамі.

Паводле Закона, да беларусаў замежжа адносяцца наступныя асобы:

грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна пражываюць за межамі Рэспублікі Беларусь;

замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць за межамі Рэспублікі Беларусь і самі або іх продкі па прамой узыходзячай лініі нарадзіліся або пражывалі на тэрыторыі сучаснай Рэспублікі Беларусь;

замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць за межамі Рэспублікі Беларусь і ідэнтыфікуюць сябе як беларусы з пункту гледжання этнічнай прыналежнасці да беларускага народа або беларускай мовы, культуры, гістарычных сувязей, ведання і захавання беларускіх традыцый і звычаяў.

Згодна з Законам, дзяржаўнае рэгуляванне і кіраванне ў галіне адносін з беларусамі замежжа ажыццяўляюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, Урадам Рэспублікі Беларусь, Міністэрствам замежных спраў Рэспублікі Беларусь, Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Упаўнаважаным па справах рэлігій і нацыянальнасцей, абласнымі і Мінскім гарадскім выканаўчымі камітэтамі, іншымі дзяржаўнымі органамі і арганізацыямі Рэспублікі Беларусь.

Для вызначэння максімальна эфектыўнай дзяржаўнай палітыкі ў галіне адносін з беларусамі замежжа пры МЗС будзе створаны Кансультатыўны савет па справах беларусаў замежжа.

Наяўнасць нават закона-дэкларацыі – вялікі зрух у дзяржаўным стаўленні да супрацы з беларусамі замежжа. Аднак да яго практычнай рэалізацыі, якая можа дапамагчы не толькі захаваць, але і пашырыць беларускую прысутнасць, падтрымаць і заахвоціць нашых суайчыннікаў, што пераязджаюць за мяжу, далучацца да беларускай справы, яшчэ трэба зрабіць шмат крокаў, найперш – распрацоўка і прыняцце цэлага шэрагу дакументаў, якія і зробяць Закон “Аб беларусах замежжа” практычна прымяняльным.

Застаецца таксама пытаннем, які лёс таго Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа, які быў створаны і дзейнічаў пры Міністэрстве культуры, і наколькі новы савет будзе ўдзяляць увагу не толькі эканамічнаму супрацоўніцтву, але і культурніцкаму развіццю беларускіх асяродкаў за мяжой.

“Бацькаўшчына” спадзяецца, што прыняцце Закона – не кропкавая з’ява, а пачатак паслядоўнай і выніковай супрацы з тымі беларусамі, дзякуючы якім беларусы як нацыя годна прадстаўлены ва ўсім свеце.

Тэкст Закона “Аб беларусах замежжа” можна знайсці на сайце zbsb.org у раздзеле “Беларускае замежжа” — “Артыкулы” або на сайце pravo.by.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

# ТБМ звярнулася ў Палату прадстаўнікоў з прапановай вярнуць беларускую мову ў заканадаўства

Сакратарыят грамадскага аб'яднання “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны” (ТБМ) звярнуўся да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў з прапановай вярнуць беларускую мову ў заканадаўства.

“Зараз амаль усе законы ў нашай краіне прымаюцца толькі на рускай мове, не існуе афіцыйнага перакладу іх на дзяржаўную беларускую мову, што з'яўляецца парушэннем дзейнай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь”, — гаворыцца ў звароце.

У сувязі з гэтым і з улікам артыкулаў 1, 2 і 5 закона “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь” ТБМ прапаноўвае з 1 верасня 2014 года ўсе законы і іншыя нарматыўныя прававыя акты Нацыянальнага сходу адразу прымаць на дзвюх дзяржаўных мовах. ТБМ таксама прапаноўвае зрабіць афіцыйны пераклад дзейных законаў, якія былі прынятыя толькі на рускай мове, на дзяржаўную беларускую мову, апублікаваўшы іх у прадугледжаным законам парадку.

Старшыня ТБМ Алег Трусаў у размове з БелаПАН зазначыў, што аб'яднанне і раней кантактавала з дэпутатамі наконт вяртання беларускай мовы ў заканадаўства. “Нам абяцалі прыняць адпаведныя папраўкі ў закон аб мовах, але пакуль гэта не зроблена”, — сказаў ён.

Разам з тым Трусаў зазначыў, што ў ТБМ ёсць прыклады станоўчага супрацоўніцтва з парламентам. У прыватнасці, былі прынятыя папраўкі ў закон аб зваротах грамадзян, у адпаведнасці з якімі на зварот на беларускай мове адказ павінен прыходзіць таксама на ёй.

*“Наша Ніва”*

# Алег Рудакоў прапануе здымацца на дакументы ў нацыянальных строях




Алег Рудакоў, якога многія называюць “галоўным беларусам Прыбайкалля“, прапануе беларусам здымацца на дакументы ў нацыянальных строях. Рэч у тым, што часта ў гэтых дакументах няма графы “Нацыянальнасць“, і здымак у нацыянальным строі, паводле Алега Рудакова, будзе добрым сведчаннем таго, што мы адчуваем сябе беларусамі і ганарымся гэтым. У якасці прыкладу спадар Алег даслаў выявы ўласных дакументаў з фотаздымкамі. *Ул. інф.*

# АЙЦЕЦ АЛЯКСАНДАР НАДСАН: БЕЛАРУСЫ ПАВІННЫ ІСЦІ ДА БОГА СВАЁЙ ДАРОГАЙ І НА СВАЁЙ РОДНАЙ МОВЕ



Апошнім часам даволі шмат гаворыцца пра Расійскую праваслаўную царкву як аднаго з увасабляльнікаў у жыццё канцэпцыі так званага "русского мира", да якога залічваецца і Беларусь. Пра наступствы такога "палітычнага праваслаўя" і ролю Каталіцкай царквы ўсходняга абраду (уніяцкай) у Беларусі часопіс "Belarusian Review" размаўляе з а. Аляксандрам Надсанам, апостальскім візітатарам для беларусаў-каталікоў усходняга абраду ў замежжы.

**"Belarusian Review"**: У цяперашняй Беларусі Расійская праваслаўная царква ёсць найбольшай канфесіяй. У той самы час, не адмаўляючы дзяржаўнага суверэнітэту краінаў, кіраўніцтва гэтай царквы заяўляе пра тое, што Беларусь разам з Расіяй і Украінай ёсць ядром так званага "русского мира". Што такі падыход маскоўскіх царкоўных іерархаў азначае для Беларусі як суб'екта палітыкі?

**а. Аляксандар Надсан**: Гэтае пытанне лепей адрасаваць іерархам праваслаўнай царквы. З аднаго боку, я б не хацеў умешвацца ў іхныя ўнутраныя справы, але з іншага боку я трошкі не разумею становішча нашых праваслаўных братоў у Беларусі. Калі ёсць беларусы як нацыя і калі ёсць шмат аўтакефальных праваслаўных цэркваў у розных краінах, то чаму праваслаўная царква ў Беларусі павінна быць часткай Маскоўскага патрыярхату? Але хачу яшчэ раз падкрэсліць, што гэтае пытанне маюць вырашаць самі праваслаўныя. Напрыклад, калі ідзецца пра каталіцкую царкву, дык яна адзіная на ўсім свеце, але ў кожнай краіне ёсць свае іерархі. І калі Беларусь стала незалежнай, то ў першую чаргу Святы Айцец даў нам сваю каталіцкую іерархію.

**"BR"**: Згодна з кіраўніцтвам Расійскай праваслаўнай царквы падмуркам канцэпцыі "русского мира" ёсць расійская мова і культура. Ці можна ў такі спосаб наагул казаць пра Расійскую праваслаўную царкву на тэрыторыі Беларусі як пра беларускую царкву?

**а.АН**: Я не ведаю, ці справай царквы ёсць займацца гэтымі справамі. Справай царквы ёсць несці Слова Божае і вестку збаўлення свету ў форме найдаступнейшай для кожнага чалавека. А гэтай найдаступнейшай формай ёсць зварот да людзей на мове таго народу, да якога яны належаць. Не мая мэта як святара ісці і перарабляць беларуса на кагосьці іншага. Мы бярэм свет як ёсць, і мы прыносім гэтую вялікую вестку збаўлення роду людскога для ўсіх. Не трэба рабіцца кімсьці іншым, каб быць сынам Божым, бо ў Бога ёсць месца для ўсіх. Таму я не разумею, чаму трэба прыносіць вестку збаўлення роду людскога да беларусаў на іншай мове і ў іншай форме, чым сама звычайная беларуская. Памятайма, што пасля Узнясення Хрыста на неба апосталам быў дадзены дар розных моваў, каб яны на ўсіх мовах ўсіх народаў свету несьлі вестку збаўлення роду людскога. І там не было ані лепшых, ані горшых моваў!

**"BR"**: Наколькі такая расійска-цэнтрычная пазіцыя Расійскай праваслаўнай царквы ўплывае на беларускую нацыянальную тоеснасць?

**а.АН**: Я думаю, што такая пазіцыя не можа не ўплываць на тоеснасць народа. Беларусы павінны ісці да Бога сваёй дарогай і на сваёй роднай мове. Чаму гэта абавязкова трэба неяк карэктаваць ці абмяжоўваць? Хоць гэта і ўнутраная справа праваслаўнай царквы, але любыя царкоўныя іерархі павінны звяртацца да вернікаў на мове таго народа, якому яны нясуць Слова Божае.

**"BR"**: Чаму з боку Расійскай праваслаўнай царквы дагэтуль такое негатыўнае стаўленне да Каталіцкай царквы ўсходняга абраду як у Беларусі, так, напрыклад, і ва Украіне?

**а.АН**: На жаль, так яно ёсць, і ў гэтым няма нічога новага. Памятайма, што акурат расійскі ўрад з дапамогай расійскай царквы зліквідаваў Унію ў 1839 г. Выглядае, што ў Маскоўскім патрыярхаце дагэтуль уважаюць, што каталікі ўсходняга абраду – гэта нейкі нонсэнс і што гэтыя вернікі павінны быць праваслаўнымі. Унія ў Беларусі была зліквідаваная сілай, сілай свецкай. Аднак Хрыстос ніколі не прымяняў сілы, і мы яе не ўжываем. Таму гэта не толькі прыкра, але і балюча, бо мы хочам быць братамі з усімі, у тым ліку з нашымі братамі-праваслаўнымі.

**"BR"**: У гістарычным кантэксце Каталіцкая царква ўсходняга абраду часам трактуецца як нацыянальная царква беларускага народа. Якім Вы бачыце будучыню гэтай канфесіі ў Беларусі?

**а.АН**: Сапраўды, быў час, калі абсалютная большасць беларусаў былі каталікамі ўсходняга абраду. Але я б ніколі не хацеў, каб царква называлася нацыянальнай, бо царква ёсць універсальнай, дзе ёсць месца для кожнага. Беларусы былі часткай гэтай вялікай царквы Хрыстовай, дзе былі розныя нацыя, розныя мовы, розныя абрады, розныя формы, каб славіць Бога. Заўважце, што Унія ці ўсходні абрад у каталіцкай царкве не ёсць чымсьці новым. Паедзьце, прыкладам, у паўднёвую Італію – там ёсць дыяцэзіі ўсходняга абраду, якія ніколі не былі праваслаўнымі. У сваю чаргу, я малюся і вельмі спадзяюся, што грэка-каталіцкая царква ў Беларусі будзе развівацца. Гэтае развіццё не ёсць скіраваным супраць праваслаўя ці якой-кольвек іншай канфесіі. Гэта – патрэба душаў людзей, каб маліцца ў такой форме. Бог – вялікі і магутны, мы ж людзі – абмежаваныя. Але мы можам славіць яго ў розныя спосабы, бо яны ўсе яны на славу Божую.

*Размаўляў Кірыл Касцян*

*Гэты артыкул з'явіўся па-ангельску ў Belarusian Review, Vol. 26, No. 3.*



*Фота - nn.by*

# АДЗНАКА ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ З'ЯВІЦЦА Ў ДЫПЛОМЕ ШВЕЙЦАРСКАЙ ШКОЛЫ

*(Публікуецца ў скароце. Цалкам матэрыял ёсць на сайце zbsb.org)*

Ад восені гэтага года ў рускай школе ў Цюрыху пачне сваю працу беларускамоўны клас. Не толькі дзеці, але і дарослыя беларусы, якія жывуць у Швейцарыі, змогуць прайсці навучанне. Распавёў "Белсату" пра ідэю беларускамоўнага класа Алесь Сапега, прэзідэнт Асацыяцыі беларусаў у Швейцарыі.

Прапанова стварэння беларускага класа належыць дырэктарцы рускай школы "Детский городок", якая знаходзіцца ў Цюрыху. Сёлета беларусы дапамагалі ў арганізацыі і правядзенні Дня славянскай пісьменнасці. Менавіта пасля яго дырэктарка рускай школы і спытала: "Чаму вы не жадаеце адкрыць беларускамоўны клас?" "На той момант гэта было вельмі складана. Бо няма ні настаўніка, ні вучняў. І яна прапанавала адкрыць гэты клас на базе рускамоўнай школы. Акрамя гэтага, вучні іх школы атрымліваюць у дыплом аб заканчэнні швейцарскай школы адзнаку па мове. Так будзе і з беларускім класам", – распавёў Алесь.

Гэта вельмі сур'ёзны праект, таму цяпер Асацыяцыя беларусаў шукае адпаведнага настаўніка. Патрабаванні да выкладчыка таксама разнастайныя. Трэба, каб гэта былі не толькі заняткі па беларускай мове, але і па гісторыі і культуры Беларусі. Шмат беларусаў, якія жывуць у Швейцарыі, не ведаюць беларускай мовы. А галоўная мэта Асацыяцыі – прапаганда беларускай мовы, гісторыі, культуры, беларускіх каштоўнасцяў і традыцый. "Мы хочам, каб дзеці, дарослыя чулі, ведалі беларускую мову, каб знаёміліся з беларускімі традыцыямі", – кажа Алесь. Навучацца ў класе змогуць усе жадаючыя.

На прапанову выкладаць беларускую мову ў Швейцарыі адгукнуліся беларусы са ўсёй Еўропы, у тым ліку з Беларусі, Польшчы, Нямеччыны.

**"А што такое "наконт"?" – Ці беларуская мова ў Беларусі – замежная?**

У Алеся вялікая сям'я. Ён мае жонку і трох дзяцей. І ў жніўні гэтага года яны вырашылі з'ехаць у Беларусь на год. Жонка Алеся – швейцарка, вельмі яго падтрымлівае, хаця напачатку скептычна ставілася да намеру Алеся размаўляць па-беларуску, які перайшоў на родную мову толькі з 1 студзеня гэтага года. Але цяпер здзіўляецца таму, што беларусы ў Беларусі не ведаюць роднай мовы. "Для мяне сапраўды вельмі дзіўна, што беларусы ў Беларусі не толькі не размаўляюць па-беларуску, але і не разумеюць беларускай мовы", – кажа жонка Алеся.

У Швейцарыі, дарэчы, 4 дзяржаўныя мовы: французская, нямецкая, італьянская і рэтараманская. Таму ягоная жонка добра ведае некалькі моваў. А ў Беларусі часта здараліся розныя, часам камічныя сітуацыі, калі беларуская мова для беларусаў гучала як замежная. "Вось, напрыклад, хадзілі ў пашпартны стол. Хацелі ўдакладніць наконт дакументаў для пераезду. І жанчына мне кажа: "А вы мне зараз па-ўкраінску кажаце?" – "Не, па-беларуску", – адказваю ёй. "А што такое "наконт"?" – запыталася яна. Я патлумачыў. Напрыканцы перапытваю яе: "Калі мы атрымаем адказ?" На што яна здзіўлена запыталася: "Чаму вы так негатыўна ставіцеся? Можа мы вам і не адкажам". Прыйшлося зноў тлумачыць, што такое "адказ" па-беларуску", – смеючыся, распавёў Алесь. І такіх прыгодаў у Беларусі з ім здаралася шмат.

Большасць знаёмых пытаюць, чаму вырашылі з'ехаць. Адказ вельмі просты: "Мы – вольныя, таму і з'язджаем". Паводле Алеся, людзі, якія жывуць у Швейцарыі, вольныя ад стэрэатыпаў, ад звычкі жыцця на адным месцы. Таму, шмат хто з'язджае ў іншыя краіны альбо ў кругасветнае падарожжа на некалькі гадоў. А Беларусь – радзіма, там засталіся сваякі.

У Беларусі Алесь будзе займацца дабрачыннасцю і перакладамі на нямецкую мову. Ёсць мара перакласці дакументальны фільм. Плануюць таксама правесці некалькі месяцаў і на беларускай вёсцы, каб дзеці пазнаёміліся з сапраўдным вясковым жыццём, жывёламі, тым, чаго так не хапае ў прыгожай Швейцарыі.

**Беларусы ў Швейцарыі**

Стварэннем Асацыяцыі беларусаў у Швейцарыі Алесь заняўся 2,5 гады таму. Жаданне аб'яднаць усіх беларусаў у адной арганізацыі падтрымала і амбасада Рэспублікі Беларусь у Берне. Адметнай рысай беларусаў у Швейцарыі з'яўляецца тое, што яны раскіданыя па ўсім краі. Беларуская дыяспара досыць шматлікая, але не сканцэнтравана ў адным горадзе. Усе імпрэзы, якія ладзіць Асацыяцыя, праводзяцца альбо ў арандаваных памяшканнях, альбо на свежым паветры. Аднак гэта не перашкаджае ім размаўляць па-беларуску і распаўсюджваць беларускую культуру ў сваіх гарадах.

*Паводле Іны Чанчавік, belsat.eu*

# БЯЛЯЦКІ Ў ПОЛЬШЧЫ: БЕЛАРУСКАЕ ГРАМАДСТВА ВЫСПЯВАЕ НА ВАЧАХ

"Мяне ўразіла, колькі ў Беларусі з'явілася непалітычных, культурных, моўных грамадскіх ініцыятыў за тыя тры гады, якія я правёў у калоніі. Гэта даказвае, што грамадзянская супольнасць у нас развіваецца", — сказаў на сустрэчы ў Варшаве Алесь Бяляцкі. Візіт у сталіцу Польшчы завяршыў турнэ беларускага праваабаронцы па еўрапейскіх краінах.

Старшыня праваабарончага цэнтра "Вясна" прыбыў у Варшаву 9 ліпеня на запрашэнне Хельсінкскага фонду па правах чалавека і Фонду імя Сцяпана Батуры.

Сітуацыя ўнутры Беларусі, а таксама ўкраінскі крызіс — гэта пытанні, пра якія гаварылася ў часе сустрэчы Алеся Бяляцкага з прадстаўнікамі няўрадавых арганізацыяў і журналістамі ў чацвер.

"Ніхто не хоча вайны ў Беларусі, і я не хачу, — сказаў Бяляцкі. — Можна паглядзець на сітуацыю ў арабскіх краінах. Перамены неабходныя, і складана прадбачыць, як далёка зойдзе сітуацыя ва Украіне. Калі сітуацыя будзе лепшаць, то гэта будзе добрым прыкладам і сігналам для беларускага грамадства. Важна тое, што адбудзецца ва Украіне ў наступныя 5—7 гадоў", – лічыць Алесь Бяляцкі. Гаворачы аб прычынах поўнай эканамічнай залежнасці Беларусі ад танных расійскіх энергарэсурсаў, Бяляцкі адзначыў, што ў будучыні як на Захадзе, так у Беларусі "пройдзе пераацэнка значэння Расіі".

Што да вынікаў свайго турнэ па еўрапейскіх сталіцах, праваабаронца падкрэсліў: "Кім мы будзем — шэрай зонай у выглядзе Абхазіі ці Прыднястроўя ці нармальнай еўрапейскай краінай? Важна, каб ЕС не губляў Беларусь з поля зроку. Важна, каб Беларусь не была ізаляваная. Для нас асабліва важна супрацоўніцтва з Польшчай і Літвой, бо мы знаходзімся ў адным рэгіёне. Мая паездка ў Еўропу звязана з тым, каб вырашыць пытанне палітвязняў у Беларусі", — падкрэсліў Бяляцкі.

У другой палове дня адбылася сустрэча з кіраўнікам Канцылярыі Прэзідэнта Польшчы Яцкам Міхалоўскім. Значэнне інфармацыйнай прасторы ў Беларусі абмяркоўвалася таксама на сустрэчы ў Сойме Польшчы з дэпутатамі парламенцкай камісіі па замежных справах.

Пасля сустрэчы ў дэпутатамі Алесь Бяляцкі і польскі дэпутат Роберт Тышкевіч выступілі на брыфінгу для польскіх журналістаў, якія працуюць у Парламенце.

*Паводле "Нашай Нівы"*

## ВАЛЕРЫЮ КАЗАКОВУ ЎРУЧЫЛІ МЕДАЛЬ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ



Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі Ігар Петрышэнка ўручыў у Маскве медаль Францыска Скарыны вядомаму расійскаму і беларускаму пісьменніку Валерыю Казакову.

У апошнія гады толькі ў Мінску пабачылі свет шэсць кніг таленавітага паэта, празаіка, публіцыста. А літаратурны шлях Валерыя Казакова пачынаўся з падтрымкі, добрых слоў такіх пісьменніцкіх славутасцяў Расіі, як Андрэй Вазнясенскі, Юна Морыц… Сярод мінскіх выданняў нашага земляка — "Выбранае" ў серыі "Беларускі кнігазбор". Адна з кніг — "Прагнутыя нябёсы" аддрукаваная, як на сённяшні час, надзвычай вялікім накладам — 7000 асобнікаў. Валерый Мікалаевіч — член Саюза пісьменнікаў Беларусі. За ўклад у інтэграцыйныя працэсы пісьменніцкіх супольнасцяў адзначаны медалём СПБ "За вялікі ўклад у літаратуру".

Уручаючы ўзнагароду нашаму суайчынніку (Валерый Мікалаевіч нарадзіўся на Магілёўшчыне), Ігар Петрышэнка падкрэсліў шматгранную работу пісьменніка ў грамадзе беларускай дыяспары ў Расіі, звярнуў увагу на многія ініцыятывы нашага земляка ў грамадска-палітычных, культурна-асветніцкіх стасунках народаў Расіі і Беларусі. Выставы ў музеях, падтрымка кнігавыдавецкай дзейнасці, перадача мастацкіх каштоўнасцяў, якія маюць дачыненне да Беларусі, з розных мастацкіх скарбніц Расіі — гэта далёка не поўны пералік добрых спраў старшыні Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Расіі" Валерыя Казакова.

Пра адчуванні ў сувязі з высокай адзнакай карэспандэнт запытаўся ў самога Валерыя Мікалаевіча: "Якія могуць быць адчуванні, акрамя радаснай удзячнасці?.. А пра што думаецца ў звязку з гэтым… Ды, відаць, і пра тое, што Радзіма для кожнага з нас, як творчага чалавека, так і звычайнага, — і крылы, і крыніца натхнення. Да роднай старонкі заўсёды цягне, таму і дом у мяне ёсць у Беларусі, таму і цікавяць мяне справы ў роднай Айчыне, за якую перажываю, за якую думкамі і словамі малюся".

*Мікола Берлеж, "Звязда"*

## АЛІНА ВАЎРАНЮК: Я БЕЛАРУСКА ПА ЖЫЦЦІ

Нядаўна адбыўся традыцыйны фестываль музыкі маладой Беларусі "Басовішча". Сёлета ён зазначыўся тым, што на сцэну разам з рок-музыкамі выйшлі дзеці. 25 вучняў пачатковай школы, дзякуючы ініцыятыве сваёй настаўніцы Аліны Ваўранюк, не толькі падпявалі ўсім беларускім рок-зоркам, але проста "ўзарвалі" свята. І старыя хіты, і новыя песні, і купалаўскія радкі ў іх выкананні публіка прымала з непаўторнымі авацыямі. Рэсурсу Nastaunik.info удалося пагутарыць з настаўніцай беларускай мовы Пачатковай школы №4 Алінай Ваўранюк, якая вучыць і гуртуе беларускіх дзяцей на Беласточчыне.

**Nastaunik.info:** Аліна, ці лёгка прывіць дзецям любоў да роднай мовы, роднага слова ў іншамоўным асяроддзі?

**Аліна Ваўранюк:** Калі я люблю сваю родную мову і яна займае шмат месца ў маім сэрцы і жыцці, дык усякія цяжкасці можна пераадолець. Ды і беларусаў на Беласточчыне жыве шмат. Мы стараемся захаваць свае традыцыі, мову.

**N:** Якія спосабы Вы знаходзіце, каб Вашыя гадаванцы адчулі прыгажосць і палюбілі роднае слова?

**АВ:** Я заўсёды ведала, што ўрокі беларускай мовы – гэта не ўсё. Ставім п'есы з маімі вучнямі ў беларускім тэатральным гуртку. Летам езджу з імі на тыднёвыя летнікі. Мы заснавалі грамадскую арганізацыю "АБ-БА" (Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову) і ладзім экскурсіі, музычныя заняткі, арганізуем сустрэчы, канцэрты, выдаем дыскі з песнямі, кніжкі, падручнікі, дапаможнікі, даем майстар-класы настаўнікам і шмат чаго яшчэ. Заходзьце на наш сайт і чытайце!

**N:** Вядома, што Вашыя вучні проста "ўзарвалі" сёлетні фестываль беларускай песні "Басовішча". Яны выступілі разам з сапраўднымі зоркамі Беларусі – Лявонам Вольскім, Ігарам Варашкевічам і іншымі, спявалі песні, якія сталі хітамі не толькі ў Беларусі. Раскажыце, як гэта адбывалася і як да гэтага ставіліся дзеці.

**АВ:** Я вяла з дзецьмі заняткі ў суботы, расказвала пра фестываль "Басовішча", гісторыю беларускай рок-музыкі. Мне не было цяжка, я ж ведаю сваіх вучняў, кожны год езджу на "Басовішча". Пахвалюся, што я была пры абмеркаванні ідэі "Басовішча" з Басяй Пякарскай (тады яшчэ Кучынскай) і Міколам Ваўранюком (тады яшчэ ён не быў маім мужам), мы ездзілі ў Мінск запрашаць музыкаў на першае "Басовішча". Гэта былі незабыўныя хвіліны, першая сустрэча з Сержуком Воюшам, Алесем Камоцкім, Сяргеем Краўчанкам з "Уліса". Была суарганізатаркай першага фэсту, а цяпер мае былыя вучні і ўласныя дзеці яго арганізуюць. Ці можа быць цяжка распавядаць пра тое, што любіш, беларускую музыку, дзецям? Абсалютна не! Песні, якія праспявалі дзеці, ведае хіба кожны.

**N:** Што можаце параіць сваім калегам – выкладчыкам роднай мовы і літаратуры ў Беларусі, якія таксама вымушаны выхоўваюць дзяцей у чужамоўным асяродку?

**АВ:** Па-мойму, самае важнае – дзеці адчуваюць фальш. Яны бачаць, што я не настаўніца роднай мовы толькі на ўроках, я беларуска па жыцці. Выхавалі мы з мужам дзяцей-беларусаў, гавару з імі на сваёй роднай мове, мае вучні, бывала, былі здзіўлены, што я ведаю таксама польскую мову. Я жыву ў Польшчы, гавару па-беларуску з нашым беластоцкім акцэнтам, але гэта мая родная мова.

І я сама, і дзеці перапоўненыя шчасцем, бо дзецям вельмі падабаецца працаваць і рэпетаваць з найлепшымі музыкамі, размаўляць па-беларуску, вучыцца ў іх, займацца сур'ёзнай дарослай справай. А я назіраю, што атрымліваецца – дзеці вельмі непрадказальныя, як і музыкі.

**N:** Мы зразумелі Ваш сакрэт – паказваць асабісты прыклад і дазволіць дзецям быць стваральнікамі сваёй культуры. Вашыя вучні будуць памятаць, як яны сталі зоркамі фестывалю, мець гэты факт у біяграфіі. Яны адчулі, што беларусамі быць класна! Ім ужо не трэба вучыць астраномію, каб зразумець, што сапраўдныя зоркі свецяць сваім святлом, а больш дробная матэрыя – толькі адлюстроўвае чужое.

**АВ:** Дакладна так. У нас яшчэ будзе запіс усяго канцэрту. Паўторым яго на "Wschodzie Kultury" ў Беластоку 29 жніўня. Выступіць "Стары Ольса", а потым мы – 25 АБ-БА АРКЕСТР з салістамі, як на "Басовішчы": Лявонам Вольскім, Ігарам Варашкевічам, Аляксандрам Памідоравым, Юркам Асеннікам і Хрыстафорам Сяськевічам. Запрашаем!

Трэба, каб было больш пляцовак, дзе дзеці-беларусы маглі б паказаць свае таленты. Працытую Ігара Варашкевіча, лідара "Крамы": "Гэта як быў адзіны беларускамоўны рок-фестываль, так ім і застаўся. Больш няма. Прычым, калі раней былі больш дробныя фэсты кшталту "Року па вакацыях", то зараз нічога няма. А тыя вялікія оўпэн-эйры, што ёсць, запрашаюць расійскіх зорак. Усялякае тут было, як і ў розных гісторыях бываюць плюсы і мінусы. Але ўсё ж такі гэта добрая справа. І нам дастаткова сумна было не ездзіць сюды 4 гады".

**N:** Дзякуй за размову, і за "Басовішча", якое жыве 25 гадоў, таксама дзякуй!

*nastaunik.info*

# ЗАЯВА АЛЕГА РУДАКОВА

Дзень добры, дарагія сябры!

Ужо многім стала вядома, што я 5 ліпеня 2014 напісаў заяву аб выхадзе са складу сябраў Рэгіянальнай грамадскай арганізацыі "Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Я.Д. Чэрскага" (ІТБК).

Натуральна, у супольнасці з'явіліся розныя разважанні і шкадаванні на гэты конт.

Вось сёння я хачу афіцыйна і выразна растлумачыць.

Так, я прыняў такое рашэнне. Яно цвёрдае і зваротнай сілы не мае. Але трагедыі тут зусім няма ніякай.

Як вы ўсе ведаеце, год таму, а менавіта 27 красавіка 2013 г., на чарговым 10-м З'ездзе ІТБК я пасля 17 гадоў кіраўніцтва склаў з сябе паўнамоцтвы старшыні дадзенай арганізацыі. Аргументаваў я гэта тым, што, з'яўляючыся прыхільнікам дэмакратычных каштоўнасцяў, лічу, што 17 гадоў быць кіраўніком, нават грамадскай арганізацыі, для аднаго чалавека занадта шмат. Тым больш, вырасла новая, маладая, грамадска-актыўная змена, якая рвецца рэалізаваць свае планы па кіраўніцтве ІТБК. Да таго ж, я вырашыў засяродзіць сваю ўвагу на навукова-этнаграфічных пошуках ва Усходняй Сібіры.

Такім чынам, пасля таго, як я склаў з сябе паўнамоцтвы старшыні, 10-ты З'езд ІТБК абраў новай старшынёй Алену Сіпакову, а двума яе намеснікамі Юлю Пермінаву і Аляксея Церахава. Я застаўся ў складзе Абласной Рады ІТБК.

Цягам крыху больш чым года новы актыў і я працавалі сумесна. За некаторыя мерапрыемствы я браў на сябе адказнасць у правядзенні, за некаторыя – новае кіраўніцтва.

Гэты год можна лічыць для ІТБК асабліва ўдалым. Новы актыў здолеў атрымаць дастаткова вялікі грант ад Абласной адміністрацыі на рэалізацыю сваёй планавай працы. За гэты год новае кіраўніцтва здолела стварыць выдатную, згуртаваную, актыўную каманду. Новы актыў ІТБК, успадкоўваючы асноўныя напрамкі развіцця нашай арганізацыі, уносіць і навацыі.

І ўсё ж у свядомасці многіх людзей Іркуцкай вобласці, асабліва журналістаў я асацыююся з "галоўным беларусам Прыбайкалля". А гэта ў корані не так.

Таму:

1) паколькі Алене Сіпаковай і яе намеснікам удалося стварыць новую актыўную, згуртаваную, пісьменную, прафесійную каманду, якая кіруе ІТБК;

2) у сувязі з тым, што мая прысутнасць, нават на пасяджэннях Абласной Рады, толькі ўносіць нейкую "аглядку" і "сумятню" ў працу кіруючых органаў ІТБК;

3) каб не блытаць грамадскасць горада Іркуцка і вобласці, а таксама "журналісцкую брацію";

4) каб вызваліць сабе час для навуковых пошукаў і некаторых іншых праектаў –

я і прыняў рашэнне выйсці з складу ІТБК.

Цвёрда перакананы, што з новым кіраўніцтвам, без майго ўдзелу, гэтая арганізацыя дасягне наступнага вітка ў сваім развіцці!

У той жа час, я, будучы яшчэ маладым і поўным сіл, застаюся актыўным удзельнікам беларускага руху ў Прыбайкаллі, і ў рамках Іркуцкай гарадской маладзёжнай грамадскай арганізацыі "Моладзевы клуб Крывічы" (МК "Крывічы" – старшыня Воля Галанава), сябрам якой я з'яўляюся з красавіка 2009 года (момант афіцыйнай рэгістрацыі гэтай арганізацыі), буду спрыяць адраджэнню, захаванню і развіццю беларускай традыцыйнай культуры ў Іркуцкай вобласці.

І ІТБК, і МК "Крывічы" стратэгічна з'яўляюцца партнёрамі. Мы аднолькава хочам, каб беларускі рух у Прыбайкаллі развіваўся. Аднак кожная арганізацыя будзе ісці да гэтага сваім шляхам.

Лічу, што ў цэлым беларускі рух у нашым рэгіёне толькі выйграе, бо чым больш будзе ў Іркуцкай вобласці беларускіх ансамбляў, арганізацый, клубаў і да т.п., тым больш ярка і важка будзе прадстаўлена беларуская культура ў Прыбайкаллі.

Спадзяюся, што з ІТБК нас будуць звязваць партнёрскія, паважлівыя адносіны. Разам мы робім адну справу, але кожны сваімі метадамі.

*З павагай, Алег Рудакоў*
*17 ліпеня 2014 г.*

# У ВУШАЧАХ БУДЗЕ ВУЛІЦА І ШКОЛА ІМЯ БАРАДУЛІНА

Імя Рыгора Барадуліна будзе насіць вуліца, дзе стаіць дом паэта, у які ён прыязджаў з Мінска, а таксама школа, якая знаходзіцца на гэтай вуліцы. У Вушацкім музеі пашыраць частку экспазіцыі пра Рыгора Барадуліна.

З ініцыятывай ушанаваць на радзіме памяць Рыгора Барадуліна выступілі Саюз беларускіх пісьменнікаў, Рада Віцебскай абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы, шэраг іншых грамадскіх аб'яднанняў. На афіцыйным сайце Віцебскага аблвыканкама з'явіўся адказ ініцыятарам.

Віцебскі аблвыканкам паведамляе, што разгледзеў адпаведныя звароты, накіраваныя ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, і "ў межах кампетэнцыі паведамляе": "Вушацкім райвыканкамам і райсаветам ажыццяўляецца работа па перайменаванні вуліцы Школьная ў гарадскім пасёлку Вушачы ў вуліцу імя Рыгора Барадуліна". І што ўжо "накіраваны ліст у Тапанімічную камісію пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь аб магчымасці ўжывання транслітарацыі пры перакладзе планаванай назвы на рускую мову".

Апрача таго, у Вушацкай школе праведзены сход працоўнага калектыву, які ўхваліў прысваенне гэтай ўстанове імя Рыгора Барадуліна. А ў Вушацкім музеі народнай славы "плануецца значна пашырыць гісторыка-біяграфічную частку экспазіцыі, прысвечаную Рыгору Барадуліну".

Вуліца Школьная, якую мяркуюць перайменаваць, якраз вядзе да школы, што будзе насіць імя славутага паэта. На гэтай вуліцы стаіць і хата дзядзькі Рыгора — цагляны дамок, які быў для сям'і Барадуліных не проста лецішчам, а прытулкам душы паэта, які вельмі любіў Вушачы — сваю малую радзіму.

З'яўленне вуліцы імя Рыгора Барадуліна ў Вушачах, а таксама на-



данне ягонага імя мясцовай школе — гэта толькі частка плану, прапанаванага ўладам дзеля ўшанавання памяці паэта. На ўзроўні прапановаў пакуль засталіся і прысваенне імя Рыгора Барадуліна адной з вуліц у Мінску, і ўсталяванне мемарыяльнай дошкі на доме, дзе ў Мінску жыў Рыгор Барадулін, і адкрыццё літаратурнага музею або філіі музею Рыгора Барадуліна.

*Паводле "Радыё Свабода"*

# КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЖНІВЕНЬ 2014 ГОДА

1 жніўня – у 1914-м, 100 гадоў таму, пачалася Першая сусветная вайна.

5 жніўня – 150 гадоў таму ў Варшаўскай (Польшча) цытадэлі павешаны Рамуальд Траўгут (1826-1864), адзін з кіраўнікоў паўстання 1863-1864 гг. Пахаваны ў Львове (Украіна).

6 жніўня – 130 гадоў таму ў мяст. Жыровічы (цяпер Слонімскі р-н) ці ў в. Клейнікі (цяпер Гайнаўскі пав. Падляшскага ваяв., Польшча) нарадзіўся Яўген Хлябцэвіч (1884-1953), бібліятэказнавец, літаратуразнавец, публіцыст, педагог.

6 жніўня – 100 гадоў таму нарадзіўся Міхась Рагуля (1914-2002), грамадска-культурны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

6 жніўня – 20 гадоў таму, у 1994-м, у Вільні пачаўся З'езд беларусаў Балтыі (доўжыўся 6-7 жніўня). Устаноўлена памятная дошка Янку Купалу.

7 жніўня – 135 гадоў таму у в. Дубна (цяпер Мастоўскі р-н) нарадзіўся Пётр Крачэўскі (1879-1928), грамадска-палітычны дзеяч, паэт, гісторык, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

14 жніўня – 220 гадоў таму ў маёнт. Цярэспаль (цяпер Полацкі р-н) нарадзіўся Міхаіл Балінскі (1794-1864), гісторык, публіцыст.

15 жніўня – 90 гадоў таму, у 1924-м, у в. Дуброва (цяпер Рэчыцкі р-н) нарадзіўся Павел Гуз, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

15 жніўня (ці 15 верасня) – 60 гадоў таму ў мяст. Падсвілле памёр Язэп Драздовіч (1888-1954), мастак, скульптар, этнограф, археолаг, педагог, адзін з заснавальнікаў нацыянальна-гістарычнага жывапісу. Пахаваны на могілках паміж в. Ліпляны і Малыя Давыдкі Глыбоцкага р-на.

20 жніўня – 95 гадоў таму ў Закапанэ (цяпер Польшча) памёр Іван Луцкевіч (1881-1919), грамадска-палітычны дзеяч, археолаг, этнограф, публіцыст. У 1991 г. магіла сімвалічна была перанесена на віленскія могілкі Росы.

20 жніўня – 90 гадоў таму, у 1924-м, на першым з'ездзе беларускіх студэнтаў у Празе створана Аб'яднанне Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў (АБСА).

26 жніўня – 20 гадоў таму ў Мінску памёр Сяргей Новік-Пяюн (1906-1994), паэт і пісьменнік. Пахаваны ў в. Лявонавічы Нясвіжскага р-на.

28 жніўня – 140 гадоў таму ў г. Вілейка нарадзіўся Аляксандр Уласаў (1874-1941), грамадска-культурны дзеяч, выдавец, публіцыст.

28 жніўня – 80 гадоў таму, у 1934-м, нарадзіўся Васіль Мельяновіч (в. Азярніца, цяпер Лунінецкі р-н), палітык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

28 жніўня – 20 гадоў таму, у 1994-м, у Беларусі ўпершыню пачалося святкаванне Дня беларускай пісьменнасці і друку. Мерапрыемствы доўжыліся ад 28 жніўня да 4 верасня і завяршыліся ў Полацку.

28 жніўня – 10 гадоў таму, у 2004-м, у Празе (Чэхія) пачалася Першая сустрэча беларусаў Еўропы (доўжылася два дні).

30 жніўня – 435 гадоў таму, у 1579-м, войска Рэчы Паспалітай на чале з каралём Стэфанам Баторыем пасля 18-дзённай аблогі вызваліла Полацк ад маскоўскіх войскаў.

30 жніўня – 210 гадоў таму ў мяст. Крывічы (цяпер Мядзельскі р-н) нарадзіўся Аляксандр Ходзька (1804-1891), паэт, фалькларыст, усходазнавец.

30 жніўня – 85 гадоў таму памёр ад тыфу Паўлюк Трус (1904-1929), паэт. Пахаваны на Вайсковых могілках у Мінску.

31 жніўня – 455 гадоў таму, у 1559-м, Лівонскі ордэн перайшоў пад пратэктарат Вялікага княства Літоўскага.

# МАСКОЎСКІ ПАДАРУНАК ЗЕМЛЯКОЎ

Нацыянальна-культурная аўтаномія “Беларусы Масквы” выдала кнігу “Рэспубліка-партызанка”. Зборнік артыкулаў прымеркаваны да 70-годдзя вызвалення нашай краіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Выданне — вынік навуковай дзейнасці супрацоўнікаў Навукова-даследчага цэнтра гісторыі дыяспар гістарычнага факультэта МДУ імя М.В. Ламаносава, Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, Навукова-даследчага Цэнтра фундаментальнай шматтомнай працы “Вялікая Айчынная вайна 1941 — 1945 гадоў”.

Адкрываецца зборнік грунтоўным даследаваннем Сяргея Кандыбовіча, Вячаслава Даніловіча і Аксаны Солапавай “Грамадскія партызанскія аб’яднанні Расіі і Беларусі: 70 гадоў гісторыі”. Пра падпольны рух у пярэдадзень вызвалення расказвае доктар гістарычных навук Аляксандр Каваленя. Сярод аўтараў кнігі — беларускія і расійскія гісторыкі Барыс Далгатовіч, Уладзімір Здановіч, Аксана Солапава, Аляксей Гусеў, Аксана Казапалянская, Мая Бабенка і інш. Асобным раздзелам прадстаўленыя ў зборніку ўспаміны нашых землякоў, лёс якіх звязаны з Масквой: кінарэжысёра Аляксандра Ульянава, актрысы Марыяны Мадоравай-Патапавай, генерал-лейтэнанта Вячаслава Раманава, дзяржаўных, палітычных дзеячаў Кандрата Цераха, Віктара Шавялухі і інш. Выдадзеная накладам 1000 экзэмпляраў, кніга “Рэспубліка-партызанка”, несумненна, добры ўнёсак у вывучэнне ваеннай гісторыі нашай Айчыны. Спадзяёмся, што заўважаць яе не толькі ў Маскве, але і ў Беларусі.

*Мікола Берлеж, газета “Звязда”*

# ЯК У МАЛДОВЕ СВЯТКАВАЛІ КУПАЛЛЕ



Беларуская, руская і ўкраінская абшчыны Малдовы адзначылі ў нядзелю, 6 ліпеня, старажытнае славянскае свята Купалле ў горадзе Вадул-луй-Водэ на Днястры.

У свяце Івана Купалы таксама ўзялі ўдзел прадстаўнікі дыпламатычных місій Беларусі і Расіі, уладаў Малдовы, мэрыі горада Вадул-луй-Водэ і шматлікія госці.

Ганаровых гасцей свята сустракалі хлебам-соллю ды караваем на ручніках Іван Купала і яго світа на конях пад сцягам Ярылы.

З велізарным задавальненнем, дружна і весела беларуская, руская і ўкраінская абшчыны Малдовы і шматлікія госці ўдзельнічалі ў конкурсах “Пацалунак Купалы”, “Бог сонца”, “Дрэва жаданняў”, конкурсе волатаў, купальскай віктарыне.

Адбыліся карагод з бубнам, танцы праз скакалку, пляценне вянкоў і варажба на іх, распальванне вогнішча. Пары скакалі праз вогнішча, узяўшыся за рукі, і акуналіся ў раку, што сімвалізавала ачышчэнне агнём і вадой.

Таксама прайшлі гульні ад Вадзяніка – эстафеты. Па рацэ Днестр удзельнікі свята пускалі вянкі і тапілі Купалу – дрэўца.

*Паводле інфармацыйнай службы Беларускай грамады ў Малдове*

# ЛІПЕНЬ З BUDZMA.BY

Прапануем агляд некатодых матэрыялаў за ліпень сайта культурніцкай кампаніі “Будзьма беларусамі!”, каардынатарам якой з’яўляецца Згуртаванне “Бацькаўшчына”.

Як заўважыла журналіст сайта “Будзьма!” Аляксандра Дорская, “па сутнасці, усе калумністы кампаніі “Будзьма беларусамі!” працуюць па адной схеме: узвядзенне нейкага прыватнага назірання ў ранг нацыянальнай рысы”.

Ганна Янкута ў сваёй літаратурнай калонцы разважае пра кнігі беларускіх аўтараў або перакладзеныя на беларускую мову. З апошніх гэта кніга Станіслава Выспяньскага “Вяселле” ў перакладзе Лявона Баршчэўскага ды “Сінухе-егіпцянін” фінскага пісьменніка Міка Валтары ў перакладзе Якуба Лапаткі. Уласна беларускім кнігам прысвечаная рэцэнзія на кнігу падарожных нататак Ромы Свечнікава з гаваркой назвай “Рома едзе” ды тэкст “Забытая вайна”, у якім разглядаецца феномен таго, што ў беларускай ваеннай літаратуры на першы план выступае Другая сусветная вайна, у той час як Першая сусветная застаецца па-за літаратурным кантэкстам. У гэтым жа тэксце Ганна Янкута дае кароткі аналіз твору Максіма Гарэцкага “На імперыялістычнай вайне”.

Віктар Марціновіч працягвае сваю калонку “Культурызм” шэрагам эсэ на культурніцкую тэматыку, якія стала выклікаюць інтарэс у чытачоў. Многа станоўчых водгукаў выклікаў, напрыклад, ягоны пазітыўны тэкст пад назвай “Беларусь атрымалася”. Прывядзем цытату з яго: “Чамусьці мне здаецца, што калі б па Мінску ліпеня 2014 года прайшоўся нацыяналіст-рамантык з сярэдзіны 90-х, калі б ён завітаў на моўныя курсы, падзівіўся на рэкламу, пачытаў навіны і пабачыў выставы ў музеях (ну, напрыклад, пра сто гадоў беларускага авангарду), ён бы проста не паверыў сваім вачам. У палове рэстаранаў меню па-беларуску. Што праўда, калі спытаць у дзяўчыны-афіцыянткі нешта пра склад стравы, яна хутчэй за ўсё пачырванее і пачне лепятаць, што яна “на мове не очэнь можа”. Але тым не меней, тым не меней”.

Таксама варта адзначыць новыя матэрыялы калонкі амбасадара Вялікабрытаніі Бруса Бакнэла “Дзень у Лондангрdüзе” і “Дзе край Еўропы?” У апошнім аўтар падзяліўся сваімі ўражаннямі ад паездкі ў Лоеў, якая натхніла яго паразважаць над тым, як уплывае рэльеф на светапогляд людзей, ды над іншымі пытаннямі.

Некаторыя з матэрыялаў калумністаў выклікалі абмеркаванне не менш гарачае, чым гэтае спякотнае лета. Напрыклад, эсэ Альгерда Бахарэвіча “Ганаровая вешалка”, дзе аўтар выкарыстоўвае вобраз беларускай вышыванкі, справакавала цэлую буру каментароў і артыкулаў у адказ аўтару і паставіла перад чытачом мноства пытанняў, адно з якіх – ці магчымае і ці патрэбнае яднанне асобаў у нацыю без захавання індывідуальнага мыслення.

У межах праекту “Захапленні 2” чытачам прапануюцца інтэрв’ю з акцёрамі беларускіх тэатраў, якія дзеляцца сваімі захапленнямі па-за прафесійнай сферай. Леанід Паўлёнак і Ганна Шапашнікава, артысты музычна-тэатральнага ансамбля “Шпакоўня”, паразважалі пра адказнасць за свае дзеянні, клопат пра экалогію, сямейныя і грамадзянскія каштоўнасці. А актрыса Святлана Зелянкоўская расказала, чаму ёй падабаецца займацца боксам.

А яшчэ ў ліпені выйшаў першы матэрыял новай серыі праекту “Байцоўскі ген”. Выйшаў “па-за чаргой”, бо адзін з герояў праекту – баксёр Сяргей Хаміцкі – узляцеў на вяршыню сусветных рэйтынгаў і неўзабаве чакаўся яго бой з зорным нямецкім байцом Робертам Штыгліцам, двухразовым чэмпіёнам свету. Гэты бой ужо адбыўся, і сайт budzma.by асвятліў яго ў матэрыяле “Баксёр Сяргей Хаміцкі зганьбіў двухразовага чэмпіёна свету”.

У рубрыцы Глеба Лабадзенкі “Дзіцячая заМова” ў ліпені выйшлі новыя ўрокі-малюнкі, з якіх дзеткі пазнаёмяцца з такімі беларускімі словамі як “сырадой”, “жмінда”, “вакацыі”, “паходня”, “вусень” і “шарон”.

Беларуская “Магічная Мапа” папоўнілася апісаннем чарговых мясцінаў. Кацярына Рудзік, Ігар Волан, Ціхан Чарнякевіч, Таня Скарынкіна ды Зміцер Панкавец расказалі пра свае ўлюбёныя куткі ў Гальшанах, Берасці, Пінску, Смаргоні і Барысаве, а Андрусь Такінданг увасобіў гэтыя вобразы ў ілюстрацыях.

Акрамя цікавостак на сайце, у межах кампанія “Будзьма беларусамі!” адбыўся шэраг разнастайных мерапрыемстваў па ўсёй Беларусі: сустрэчы з літаратарамі і музыкамі, дыскусійныя ток-шоў, прэс-клубы і “Кірмашы праектаў”. Заходзьце на сайт budzma.by і чытайце навіны і рэпартажы культурніцкага жыцця, сачыце за афішай мерапрыемстваў і нашымі праектамі! Будзьма разам!

*Інфармацыйны цэнтр “МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

ВІНШАВАННІ

# ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сяброў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, якія нарадзіліся ў жніўні: **Насту Дашкевіч, Адама Мальдзіса, Марыю Міцкевіч, Уладзіміра Арлова** (Беларусь), **Аляксандра Надсана** (Англія), **Змітра Ярашэўскага** (Германія), **Янку Запрудніка** (ЗША), **Юрыя Статкевіча** (Малдова), **Віктара Чайчыца** (Расія). Зычым шаноўным імяніннікам жыццёвай моцы, натхнення, плёну ў працы, цеплыні і сяброўскай спагады!

У жніўні некаторыя з сяброў Вялікай Рады Згуртавання святкуюць юбілеі. 6 жніўня **Яраславу Іванюку** (Польшча) спаўняецца 45 гадоў, 7 жніўня **Алег Трусаў** (Беларусь) адзначыць 60-годдзе,



а 29 жніўня 75-годдзе сустрэне **Валер Санько** (Беларусь). Ад усёй душы зычым вам, дарагія юбіляры, моцнага і трывалага здароўя, аптымізму і радасці, а таксама імпэту і спору ў працы!

*Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

**Беларусы ў свеце**
№7(147), ліпень 2014

Інфармацыйны бюлетэнь МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27